

# КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

№12(128)

12 жніўня 2014 | Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь

# ЯК КЛІМАВІЧЫ ГОРАДАМ СТАЛІ

**Алесь ЛАПО**

***Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай Клімавічы разам з ладным кавалкам сучаснай Усходняй Беларусі адышлі да Расійскай імперыі. Каб як найхутчэй апанаваць новыя землі, імперская ўлада найперш узялася за ўладкаванне адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу і наладжванне цэнтралізаванага кіравання. Уніфікаванага адміністрацыйнага падзелу ў Рэчы Паспалітай не існавала, як не існавала суцэльнай дзяржаўнай цэнтралізацыі, і таму пачынаць прыходзілася ледзьве не "з нуля".***




Прыдбаныя землі падзялілі паміж Пскоўскай і Магілёўскай губерніямі, аднак разбіваць адразу на паветы не сталі. Вырашылі прыглядзецца, разабрацца з землямі, гаспадары якіх адмовіліся прысягаць новым уладам, правесці люстрацыю. І, нарэшце, толькі вясной 1777 г. падзел адбыўся: Магілёўскую губернію перакроілі на 12 паветаў. Сярод іншых павятовых гарадоў можна было знайсці колішняе мястэчка Клімавічы.

Рашэнне зрабіць Клімавічы рэгіянальным цэнтрам выглядала даволі дзіўным. Справа ў тым, што наўскрайку павета знаходзіўся Крычаў — прамысловы горад з магдэбургскім мінулым. У Крычава забралі гарадскі статус – ён стаў мястэчкам, нягледзячы на тое, што быў значна большым за Клімавічы. Меркаванні пра тое, што на карысць Клімавічаў згуляла цэнтральнае месцаразмяшчэнне не працуе – такія цэнтры як Орша і Рагачоў знаходзіліся менавіта на ўзмежку сваіх паветаў.

Тут справа ў іншым: яшчэ ў рэчпаспалітаўскі час Крычаў быў цэнтрам староства, буйнога прыватнага ўладання. У 1760 г. староства перайшло ад Радзівілаў да маршалка надворнага кароннага і сенатара Рэчы Паспалітай Ежы Аўгуста Мнішка. Нядзіўна, што высокі дзяржаўны дзеяч адмовіўся прысягаць расійскай імператрыцы Кацярыне і яго землі канфіскавалі. У 1776 г. Крычаў і землі староства былі падараваны князю Грыгорыю Пацёмкіну, які распачаў там развіваць мануфактурную вытворчасць. У горадзе з'явіліся суднаверф, вінакурні, цагельны, шкляны, гарбарны і медналіцейны заводы.

Але Крычаў быў прыватным мястэчкам: там адмянілі магдэбургскае права, а мясцовых жыхароў, нягледзячы на супраціў, перавялі ў статус прыгонных. Такія паселішчы не маглі выконваць дзяржаўныя адміністрацыйныя функцыі. З гэтай жа прычыны Гомель, на той час адзін з самых вялікіх гарадоў Магілёўскай губерніі, не стаў павятовым.

Такім чынам, прыватнаўласніцкі Крычаў Клімавічам — не канкурэнт, але застаюцца іншыя і даволі вялікія мястэчкі: Дамамерычы, Мілаславічы, Шумячы, Лазовіца, Хоцімск, Касцюковічы…

Дамамерычы і Мілаславічы знаходзіліся на важным шляху з Крычава на Рослаў (гэтая дарога, вядомая з XVI ст., і сёння выдатна функцыянуе; адзінае, што цяпер яна ідзе ў абыход Мілаславічаў і Шумячаў); аднак іх у разлік не бяром усё з той жа прычыны, што і Крычаў: яны сталі ўладаннямі Пацёмкіна.

Шумячы — мястэчка з уніяцкім і двума каталіцкімі храмамі выглядала галоўным канкурэнтам, аднак перыферыйнае месцазнаходжанне і шырокія каталіцкія ўплывы згулялі не на яго карысць. Напэўна, з апошняй прычыны ў разлік не ўзялі Лазовіцу (там апроч уніяцкай царквы дзейнічаў езуіцкі кляштар).

Важны гандлёвы цэнтр Касцюковічы (штогод там праводзілі два вялікія кірмашы) і Хоцімск, дзе дзейнічала адна з нешматлікіх праваслаўных цэркваў рэгёна, знаходзіліся істотна на поўдзень ад цэнтра павета.

У выніку імперскім уладам аказалася прасцей пабудаваць у цэнтры павета фактычна новы горад Клімавічы, які дэ-юрэ стаў такім у 1777 годзе, але фактычна ажно да пачатку XX стагоддзя нагадваў тыповае мястэчка.



# ОБЪЯВЛЕН ПРИГОВОР ПО ДЕЛУ ИРИНЫ МОЦНОЙ

Тимур НЕЗВАНОВ

***В понедельник 11 августа суд Климовичского района закончил рассмотрение административного дела, по которому проходила бывшая приемная мать Ирина Моцная.***

***На это потребовалось две недели, к тому же судебные заседания переносились несколько раз. Были выслушаны свидетели, изучены многочисленные документы, в том числе видео и аудиозаписи. И вот наконец-то собравшиеся в зале суда услышали приговор. Тем не менее, осталось ощущение, что это ещё не конец громкого резонансного дела, прозвучавшего на всю страну.***




Районные власти приняли решение лишить Ирину Моцную права опеки над детьми вскоре после трагической смерти их приемного отца Виктора, мужа Ирины. Но, по заявлению местных чиновников, не эта причина явилась главной для принятия подобного решения. «Милиция предоставила нам достаточно фактов, чтобы расторгнуть с Ириной трудовой договор» — считает начальник отдела образования, спорта и туризма Климовичского райисполкома Наталья Глушакова («Комсомольская правда в Белоруссии» от 8 августа). Что же это за факты?

На суде было озвучено, что бабушка двух детей, переданных в приемную семью Моцных, написала заявление о том, что Ирина Моцная избивает детей. Исходя из этого, Климовичский райисполком принял 12 июля решение о закрытии детского дома семейного типа. Одновременно Ирина Моцная была уволена с должности родителя-воспитателя, а всех приемных детей должны были изъять из семьи. Но, как говорили на суде свидетели обвинения, женщина не согласилась с увольнением, а также отказывалась вернуть детей органам опеки. Представители отдела образования, спорта и туризма Климовичского райисполкома неоднократно подчёркивали, что им препятствовали забрать детей. Поэтому, по их мнению, составление административного протокола на Ирину Моцную и обвинение её в самоуправстве оправданно и законно.

Общаясь с журналистами, Ирина Моцная не скрывала того, что она не согласилась с принятым решением Климовичского райисполкома. По утверждению Ирины, не было никаких причин для её увольнения с должности приемной матери. Обвинение в избиении детей она отрицает. Более того, женщина говорит, что когда ей сообщили, что она уволена, никто даже не спрашивал, правда ли то, что написано в заявлении бабушки. Даже ознакомиться с текстом заявления Моцной не позволили, просто показали, что такой документ существует. Фактически женщине не дали возможности оправдаться.

Не согласна Ирина Моцная и с обвинением в самоуправстве. После того, как её уволили, в дом несколько раз приходили работники отдела образования и сотрудники милиции. Как говорит Моцная, они хотели, чтобы я уговорила детей уйти из семьи. Но женщина каждый раз предлагала сделать это членам комиссии, не желая общаться с детьми на эту тему (некоторые дети прожили с Моцными по 7 и более лет).

Какого-либо препятствования членам комиссии Моцная в своих действиях не видит. Она впускала в дом комиссию, не прятала от неё детей, шла на контакт с представителями района и области. А взять и просто уйти из дома, она не могла. Оставить столько детей одних без присмотра? А вдруг с ними что-нибудь бы случилось, кто бы тогда за это отвечал, недоумевает женщина.

Не считает Моцную виновной в самоуправстве и её адвокат. Органы опеки и попечительства Климовичского райисполкома для отобрания детей у бывшей приемной матери Ирины Моцной должны были обращаться в суд, чего они не сделали. Вместо этого они написали заявлению в милицию, чтобы изъять с её помощью детей из приемной семьи. Адвокат Левоненко ссылается на постановление пленума Верховного суда от 26 сентября 2002 года за № 7 «О судебной практике по делам о лишении родительских прав», которым регулируется процесс отобрания детей в подобных ситуациях.

Основываясь на этом, защита оспаривала утверждение районных органов опеки об отказе бывшей приемной матери добровольно отдать детей. Например, как было показано в ходе суда, женщина сама просила работников отдела образования побыть с детьми, пока она узнавала в райисполкоме, за что её уволили. То есть, она уходила из дома, а с детьми оставались представители опеки. Спрашивается, кто мешал им выполнить свою работу по изъятию детей?

Выслушав обе стороны, суд Климовичского района принял решение признать бывшую приемную мать Ирину Моцную виновной в самоуправстве. Она была оштрафована на 5 базовых величин (750 тысяч рублей). Отметим, что наказание по данной административной статье влечёт наложение штрафа в размере от двух до десяти базовых величин. Таким образом, суд, налагая штраф на Ирину Моцную, избрал «золотую середину».

Сразу после вынесения приговора Ирина Моцная заявила о намерении обжаловать решение районного суда. Она также сообщила журналистам, что ей наконец-то удалось встретиться со своими бывшими приемными детьми, которые находятся сейчас в Могилёве. «Они передали мне рисунки. Просились домой, скучают. Плакали сильно и мальчики, и девочки. Но потом я успокоила их, сказала, ничего детки, поживите, мама будет за вас бороться, будем созваниваться», — рассказала женщина.





# БІБЛІЯТЭКАРКА ПРАЗ СУД АДСТАЯЛА МЕСЦА ПРАЦЫ І ХОЧА СТАЦЬ ПРЭЗІДЭНТАМ БЕЛАРУСІ



***Святлана Грыцэнка з Бабруйску дамаглася аднаўлення на працы і яшчэ амаль дзевяці мільёнаў рублёў кампенсацыі. Радыё Свабода распавядае, як актывістка аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» змагла адолець кантрактную сістэму.***

### *ВЫМУШАНЫ ПРАГУЛ АПЛАЦІЛІ*

Святлана Грыцэнка рабіла бібліятэкарам у раённай бібліятэцы. Звольнілі яе на той падставе, што скончыўся тэрмін дзеяння кантракту. Бабруйскі суд палічыў звальненне незаконным. Наймальнік мусіць аплаціць Грыцэнцы два месяцы вымушанага прагулу і кампенсаваць ёй маральную шкоду. Сума выплаты — амаль дзевяць мільёнаў рублёў.

Са Святланай Грыцэнкай гутару ў абедны перапынак у скверы непадалёк ад раённай бібліятэкі, якая, як яна кажа, ад 1991 году — адзінае месца яе працы. Сёння яна пасля двух месяцаў вымушанага беспрацоўя вярнулася ў калектыў. Настрой у яе прыўзняты. Пра атмасферу ў калектыве Святлана Грыцэнка кажа:

«Вось я сёння выйшла першы дзень на працу — былі дужа шчырыя віншаванні, былі здзіўленыя, было і такое абыякавае — маўляў, „папрацуем“. Быў і страх, бо не ўсе дужыя. І я не маю маральнага права кагосьці асуджаць. Хоць мне здаецца, што ў душы ўсе людзі радаваліся за мяне. Хоць, з другога боку, усё сумна і не дужа ўтульна на працы цяпер. Я стала раптам кепскім супрацоўнікам. Але цешыць, што ёсць людзі, якія не здраджваюць».

### *«Я ІМ ПЕРАШКАДЖАЮ»*

Апавядаючы сваю гісторыю звальнення і перамогі ў судзе, суразмоўніца пазбягае рэзкіх выказванняў на адрас тых, хто хацеў яе пазбавіць улюбёнай працы. Яна бібліятэкарка ў трэцім пакаленні. Заяўляе, што за ініцыятывай яе звольніць стаяць не кіраўнікі бібліятэкі, а бабруйскае чынавенства. Гэта адказ, цвердзіць яна, на прынцыповую пазіцыю ў адстойванні справядлівасці:

«Я папросту ўпэўненая, што гэта ўсё выканаўчая ўлада Бабруйскага раёну. Я ім перашкаджаю свабодна рашаць, расстаўляць усё і ўсіх па месцах. Яны могуць узяць ды размазаць чалавека. Людзі апускаюць галаву, нехта замыкаецца ў сабе, а нехта з'язджае ў Расію і там працуе».

На думку Святланы Грыцэнкі, ёсць пэўныя людзі, якія паставілі перад сабой задачу абавязкова яе перамагчы, бо ў іх раней не было магчымасці некага адужаць. Яны бачаць ува мне ворага, зазначае суразмоўніца:

«Я досведу набралася. Я зразумела, хто ёсць вораг, а хто сябра. Я ўбачыла, хто працуе „і нашым, і вашым“. У мяне няма на іх злосці. Слава богу, што я на гэтым не засяроджаная. Усё, што варта рабіць паводле заканадаўства, я буду, вядома ж, рабіць. Дарэчы, трэба глядзець, каб мне а 14-й быць на працы».

### *ТРЭБА БАРАНІЦЬ СВАЁ МЕРКАВАННЕ*

Святлана Грыцэнка ўдзельнічала ў апошніх мясцовых выбарах як незалежная вылучэнка. Пра далучанасць да дзейнасці камітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» ў працоўным калектыве, кажа яна, чулі. Чулі і пра яе намеры вылучыцца на пасаду прэзідэнта Беларусі. Такія заявы сталі для некаторых знаёмцаў, адзначае Святлана, нагодай для кпінаў.

«Паглядзіце на яе, яна ў прэзідэнты сабралася. Ёй, відаць, няма чаго рабіць у бібліятэцы», — так кпілі, кажа Святлана Грыцэнка. — Для мяне мой намер стаць прэзідэнтам — гэта перформанс у нейкай ступені, усмешка. Няхай гэта будзе сігналам таго, што жанчыны-маці — супраць сваволі. Яны хочуць жыць у міры. Няхай людзі бачаць, што можна выказваць сваё меркаванне і што бараніць яго трэба».

У Святланы Грыцэнкі вышэйшая бібліятэчная адукацыя. Яна старшыня пярвічнай прафсаюзнай арганізацыі бібліятэчных работнікаў Бабруйскага раёну. Яе звальненне, як высветлілася ў судзе, не было ўзгоднена з абласным прафсаюзным камітэтам. У ходзе судовага разбору справы кіраўніцтва бібліятэкі вінавацілa Грыцэнку ў нездавальняючай працы. Але дакументальна пацвердзіць гэта не было чым. Сёлета 25 красавіка ёй прапанавалі падоўжыць працоўны кантракт, але праз тыдзень заявілі, што працягваць працоўныя адносіны з ёй не будуць. Пасля звальнення Святлана Грыцэнка звярнулася ў суд, і той аднавіў яе на працы.

Святлана Грыцэнка разам з мужам гадуе дваіх дачок і сына. Актывістка дзякуе ўсім, хто дапамагаў ёй перамагчы ў судзе. Аднак лічыць, што наўрад ці тыя, каго яна перамагла, супакояцца.



# КАРУПЦЫЯ: МЯСЦОВЫ ЎЗРОВЕНЬ

**Пётр МІГУРСКІ**

***Карупцыя — выкарыстанне службовай асобай сваіх уладных паўнамоцтваў і давераных яму праў, а таксама звязаных з гэтым афіцыйным статусам аўтарытэту, магчымасцей, сувязяў у мэтах асабістай выгады, супярэчных заканадаўству і маральным устаноўкам. Карупцыяй называюць таксама подкуп службоўцаў і іх прадажнасць.***

НА ПОВЕСТКЕ ДНЯ ДВА ВОПРОСА: «ЧТО ТАКОЕ КОРРУПЦИЯ И КАК С НАМИ БОРОТЬСЯ?»

АНТИ-КОРРУПЦИОННАЯ КОМИССИЯ

ГРАФИК ВЗЯТКОЁ

Карупцыя мае даўнія карані, але раней на Беларусі яна не была такой масавай, як зараз. Разрастанне карупцыі да буйных памераў звязана з прыходам да ўлады аўтарытарнага кіраўніка, амаральных дзялкоў, нават былых крымінальнікаў. Добра засвоеныя злачынныя метады тут жа ўкараняюцца ў дзяржаўную сістэму, пераносяцца на грамадства. І хаця ў Беларусі прыняты Закон “Аб барацьбе з карупцыяй” (ад 20 ліпеня 2006 г.), які прызваны абараняць правы і свабоды грамадзян, эфектыўнасць яго дзеяння зведзена да своеасаблівага фільтра зарваўшыхся чынуш, якія вельмі ўжо хуткімі тэмпамі фармуюць асабісты дабрабыт.

Карупцыя наогул з’яўляецца сістэмным прадуктам грамадства, вынікам яго недастатковай прынцыповасці, а ў Беларусі і прадуктам дзяржаўнай палітыкі. Напрыклад: куды глядзіць дзяржава (і грамадскасць), калі кіраўнікі дзяржпрадпрыемстваў і спецыялісты, звязаныя з закупкамі сыравіны і матэрыялаў у прыватных фірм, маюць неблагія даходы ад самога факту закупак. І гэта не проста зайздрасць абывацеля. Такім чынам на дзяржаўныя прадпрыемствы паступае не заўсёды якасная прадукцыя. І пра якую канкурэнтаздольнасць большасці магілёўскіх вытворцаў можна ў гэтым выпадку весці гаворку? Бо вынікам гэтага своеасаблівага прыватна-дзяржаўнага партнёрства з’яўляюцца загружаныя склады дарагой і не зусім якаснай гатовай прадукцыяй. Пры гэтым невялікае кола менеджэраў вядзе даволі шыкоўнае жыццё, а радавыя працаўнікі тыднямі чакаюць жабрацкага заробку. Дарэчы, электронныя таргі, абавязковыя для усіх дзяржаўных прадпрыемстваў, маглі б прынцыпова выправіць становішча. Найлепшы ж выхад з гэтага няпростага становішча — прыватызацыя дзяржмаёмасці.

Ці можна спадзявацца ў навядзенні парадку на эканамічнай прасторы вобласці на сілавыя структуры — органы МУС, КДБ, КДК, следчы камітэт? Так, але ж, напрыклад, справа “адкатаў” на дзяржпрадпрыемствах зайшла так далёка, што большасць “саплівых” маркетолагаў нават і не ўтойваюць свае “левыя” крыніцы ўзбагачэння. Ды і да саміх “барацьбітоў” ёсць пытанні: арыштаваны па артыкулу “карупцыя” “перавертні ў пагонах” з Клімавічскага РАУС, шклоўскі начальніка ДФР КДК, магілёўскі суддзя, якія самі павінны былі стаяць на ахове правапарадку.

Ёсць пытанні і да прыватнага бізнэсу, але ж ён працуе ў квазірынкавых умовах і не можа быць у дадзеным выпадку цывілізаваным. Таму ўсе спробы ўлад падвысіць эфектыўнасць эканомікі бу-





дуць разбівацца аб камяні своеасаблівых адносін “прыватнае-дзяржаўнае”.

Яшчэ больш “адкатная” хвароба распаўсюджана ў бюджэтнай сферы. Закупка абсталявання ў адукацыйныя і медыцынскія ўстановы (асабліва за валюту), іх капітальны рамонт — гэта бязмерныя магчымасці для чыноўнікаў, якія рэгулююць таварныя і фінансавыя патокі для забяспячэння іх функцыявання. Ды ці мала другіх магчымасцей у нячыстых на руку чыноўнікаў — ЖКГ, арэндныя адносіны, сельская гаспадарка.- На пытанне, ці дазваляюць зараз супрацоўнікам сілавых ведамстваў правяраць начны развоз малочных і мясных прадуктаў па магазінах з адпаведных перапрацоўчых прадпрыемстваў, адказныя асобы разводзяць рукамі.

Вось таму і ўражанне, што ніхто зараз са злодзеяў-карупцыянераў нікога не баіцца і не зважае на маральныя нормы і грамадскую думку. Дзяржаўныя СМІ стараюцца абыходзіць шматлікія факты, суды над карупцыянерамі праходзяць у закрытым рэжыме.Агалосцы прыдаюцца толькі крымінальныя справы, якія выгадныя ўладзе. Нават кіраўнік дзяржавы, які раз пораз аб'яўляе барацьбу карупцыі, бяссільны ў гэтай справе барацьбы, не разумеючы, што самы надзейны заслон злодзеям можа паставіць толькі дэмакратычны дзяржаўны лад.

Як жа да карупцыйных праблем ставіцца мясцовая ўлада? У справаздачы Магілёўскага абласнога выканаўчага камітэта за 2012-2013 гады слова “карупцыя” не згадана ні разу, такія ж адносіны да карупцыйных праблем як у Магілёўскім гарвыканкаме, так і ў шклоўскіх вертыкальшчыкаў. Адзін раз пра карупцыю згадалі ў справаздачы прэзідыума абласнога Савета дэпутатаў – відаць і ў аблсавеце не вельмі шануюць гэту тэму.

Вось чаму ў тым ліку грамадскасць павінна больш крытычна адносіцца да тэмы карупцыі і шукаць прычыны замоўчвання праблемы выканаўчай уладай. Але можа з карупцыяй у Магілёўскай вобласці даўно пакончана ці ёсць дадатныя зрухі ў праваахоўных органаў? Не, гэта не так. Напрыклад, у 2012 годзе ў Магілёўскай вобласці выяўлена і пастаўлена на ўлік 209 злачынстваў карупцыйнага напрамку, не палепшылася становішча ў 2013 годзе — колькасць карупцыйных злачынстваў павялічалася на 30,5% у параўнанні з папярэднім годам і склала на 1,2% больш сярэдняга паказчыка па Беларусі. Ды і толькі за 5 месяцаў 2014 года выяўлена 101 карупцыйнае злачынства. Пры гэтым, абласная пракуратура канстатуе, што за апошнія 5 гадоў іх колькасць не памяншаецца. Яшчэ на слыху громкія затрыманні службовых асоб у Магілёўскай вобласці: генеральнага дырэктара “Крычаўцэментташыферу”, галоўнага ўрача Касцюковіцкай бальніцы, дырэктара “Магілёўдрэва”, заведзеная крымінальная справа на кіраўніка “Строммашыны”.

Але чаму мясцовая “вертыкаль” так індэферэнтна адносяцца да гэтай тэмы? Справа ў тым, што болей за трацiну (35%) ад агульнай колькасці карупцыйных злачынстваў рэгіструецца ў сістэме органаў мясцовай улады і падначаленых ім структурных падраздзяленняў. А найбольшую ўдзельную вагу займаюць крадзяжы шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі (34%), дача хабару (33%), атрыманне хабару (11%), злоўжыванне ўладай (9%). Згадзіцеся, радаваму грамадзяніну ў радах карупцыянераў месца проста няма. Пры тым, як даводзяць чыноўнікі, найбольшая колькасць карупцыйных злачынстваў зарэгістравана ва ўстановах аховы здароўя і прамысловасці, а найменшае — у гандлі і адукацыі. Па другіх жа крыніцах якраз ва ўстановах адукацыі фіксуецца найбольшая колькасць карупцыйных злачынстваў, а ў гандлі іх значна больш, чым у ахове здароўя і на транспарце. Па ўсяму выходзіць, што якраз сацыяльны і гаспадарчы механізмы выступаюць генератарамі карупцыі, ў той жа час з'яўляючыся выніковымі інстанцыямі ў рэгіянальнай эканамічнай сістэме.

І зноў жа, найбольш карумпаванымі сферамі ў Рэспубліцы Беларусь з'яўляюца будаўніцтва, размеркаванне зямельных надзелаў, хімічная прамысловасць і ўжо памянёныя ўстановы адукацыі і аховы здароў'я. Чамусьці ў Магілёўскай вобласці на першыя тры складнікі рэйтынгу не звяртаецца ўвагі. Можа на гэта ёсць свае прычыны, дык на іх трэба акцэнтаваць увагу грамадства, каб не было крыватолкаў. Бо і так хапае розных здагадак па крымінальным дзеянням мясцовых чыноўнікаў. Напрыклад, чамусьці не расследуюцца громкія справы нават у Шклоўскім раёне — справа былога начальніка райсельгасхарчу па крадзяжы 4,2 млн. еўра, “калійная справа”, чарга правапарушэнняў у жылкамунгасе, па якіх былі заведзены крымінальныя справы, але злаўмыснікі да гэтага часу не толькі на свабодзе, але і займаюць даволі “хлебныя” месцы.

Спусцімся на больш ніжэйшы ўзровень — грамадскасць вельмі цікавіць факт знішчэння ўстановы культуры ў вёсцы Бушлякі Шклоўскага раёну. А таксама, чаму быў разбураны і куды знік дабротны будынак мясцовага сельскага клуба. Без карупцыі, мабыць, не абышлось, бо, каб ліквідаваць адзінае месца ў вёсцы для правядзення досуга насельніцтва і масавых мерапрыемстваў уладных структур, трэба мець вельмі дужыя падвязкі ў мясцовай вертыкалі.І не толькі на мясцовым узроўні, бо як расцаніць той факт, што сёння ў Шклоўскім райвыканкаме паранейшаму працуюць тры службовыя асобы, якія здзейснілі крымінальныя злачынствы карупцыйнага характару: садзейнічанне крадзяжу сродкаў жыллёвага кааператыву і незаконная пастаноўка сваякоў на ўлік на жыллё. Выратаваць гэтых злодзеяў можа толькі вышэйшая ўлада Беларусі, магчыма, нават, трэба ўмяшальніцтва самога Прэзідэнта. А гэта ўжо ні ў якія вароты не лезе. Але будзем спадзявацца, што паважаны Аляксандр Рыгоравіч разбярэцца са шклоўскімі “жабракамі” па ўсёй строгасці закона.

Сучасныя выклікі гавораць аб усё новых спосабах прысабечвання чужой маёмасці, асабліва чыноўнікамі, якія стаяць на перакрыжаванні фінансавых і таварных патокаў. Але ж для Беларусі ў цэлым мажлівы і зусім кепскі сцэнар — на фоне безвынікоўнасці аграрнай палітыкі і неразумення перспектыў рынкавай эканомікі чыноўнікі паспрабуюць рознымі шляхамі прыватызаваць зямлю і асноўныя сродкі сельскагаспадарчай вытворчасці, якія зараз знаходзяцца ў распараджэнні дзяржавы. Відавочна, што гэта будзе рабіцца не на карысць дзяржавы, а зусім наадварот, што можа прывесці да катастрафічных наступстваў для радавых грамадзян. І мы ўсёй грамадой павінны стаць на шляху ліхвярства з боку цяперашняй улады, раскрываць даступнымі метадамі іх намаганні па вывазу каштоўнасцяў у сваю карысць, крадзяжы, а то і крымінальныя дзеянні, такім чынам, садзейнічаць росквіту Радзімы.





# НА ТАКИХ ДЕРЕВНЯ ДЕРЖИТСЯ

**Данила МЕСТИЧ**

***Александр Галковский из деревни Судилы Климовичского района известен далеко за пределами родной земли. Это настоящий кудесник народного творчества, хранитель уникальных секретов мастерства наших дедов и прадедов. Где сейчас в Беларуси встретишь умельца, разбирающегося в ткачестве, шаповальстве, гончарстве? На таких деревня держится, говорили во все времена люди.***

Натруженные руки этого удивительного человека не могут оставаться без дела. Александр Галковский не только обладает всевозможными знаниями, но и постоянно их применяет. Это, в общем-то, жизненная необходимость, подкрепляемая настойчивой требовательностью к себе. Нужно обрабатывать земельный участок, ухаживать за коровами, телятами, овцами, птицей. Хозяйство большое, есть пасека, около сотни пчелосемей. Внимания требуют пашня и огороды, луг и лес. А есть ведь ещё и другие занятия, без которых он не чувствует себя настоящим хозяином. Не зря семья Галковских занимается ткачеством поясов, на всю округу прославилась своими валенками.

Среди любимых присловий Александра Николаевича можно выделить следующее: «Овечка вокруг человечка». На подворье содержится примерно 80 овец, что редкость даже для крупных хозяйств. Овечья шерсть нужна для изготовления валенок, но не в одном шаповальстве дело. А мясо, полезный лечебный жир, тёплые носки и варежки?

Разобраться в том, стоит ли сегодня овчинка выделки, захотел телеканал СТВ. Съёмочная группа СТВ навестила гостеприимные Судилы и рассказала об увиденном в программе Новости «24 часа».

Александр Галковский и его супруга Людмила продемонстрировали телевизионщикам, что такое в наше время держать 80 овечьих голов. Взяв старинные ножницы, они не спеша состригают шерсть, потом моют и вычесывают, и лишь затем прядут нитки. Технология внешне выглядит просто, но обстричь овечку удастся не каждому. Александр Николаевич овцевод с 30-летним стажем, поэтому знает, о чём говорит. Вместе с женой за целый день они стригут по 25 животных, так как работа требует времени и аккуратности. Кстати, использование ножниц не случайно. Специальные машинки для стрижки овец, по его мнению, уступают дедовским ножницам.

В программе Новости «24 часа» Галковские с сожалением подчеркнули, что кроме них овцами почти никто уже не занимается. Людмила Галковская: «Это мы любители такие, что стрижём, валенки валяем, а так люди овец режут и прямо с шерстью выкидывают». Александр Галковский: «Везут же шерсть из-за рубежа. А свои порешили. А раньше в каждом доме овчарни были. Сейчас в области нет ни одной овцефермы».

Телеканал СТВ подметил и такой существенный момент: «Галковские овечью шерсть используют только для собственных нужд. Имея такое поголовье, казалось бы, почему бы не зарабатывать. Однако, не всё так просто, как может показаться на первый взгляд. До ближайшего пункта приёма в Смиловичах Минского района более 300 километров. Да и стоимость сырья невысокая». Людмила Галковская: «Килограмм 12 тысяч. Но туда и обратно пока заедешь, больше бензина спалишь. А когда примут? Нужно договариваться, когда и что. 12 тысяч — смешно. Лучше их тогда вообще не стричь».

Пока овцеводство в Беларуси ещё кое-как держится вот на таких единичных энтузиастах, как Галковские. Впрочем, если откровенно, это касается не только разведения овец. Сами же тележурналисты признали, что «во всём Климовичском районе таких отчаянных сельчан, как Галковские, раз-два и обчёлся». И это заставляет с тревогой задуматься, что же ждёт белорусскую деревню дальше.



## ПРАВИТЕЛЬСТВО ЗАПРЕТИЛО ПРОДАВАТЬ НА РЫНКАХ МЯСО И САЛО ДОМАШНЕГО ПРИГОТОВЛЕНИЯ

**Елена ПОЛЯКОВА**

***Об этом извещает Постановление Совета Министров РБ «О создании и функционировании рынков» от 16 июля 2014 г. № 686. В Постановлении говорится: «Утвердить прилагаемые: Правила создания и функционирования рынков; перечень запрещённых к продаже товаров».***



Согласно данному документу на торговых местах рынков и с рук запрещено торговать мясными продуктами домашнего приготовления. Всего в перечне запрещённых к продаже товаров имеется 39 позиций.

В частности, в перечне под №11 значатся: кровь, кишечное сырьё, вяленое и сыровяленое мясо, мясной фарш, котлеты, студень, колбасные изделия, зельцы, копчёные мясные продукты, шпик солёный и копчёный, другие изделия и рубленые мясные полуфабрикаты домашнего приготовления, а также изготовленные непосредственно на торговых местах.

Также не разрешается торговать мукой, сахаром, крупой, макаронами, не расфасованными в потребительскую тару производителями или юрлицами, имеющими соответствующий сертификат.

Одновременно на торговых местах на рынках нельзя продавать товары, требующие особых условий хранения и реализации, если продавец не может соблюдать эти условия.







# Размаўляй на мове, а не пра мову

## ЯК СЯРГЕЙ СТАЎ СЕРЖУКОМ

Вольга СЛУЦКАЯ, gazetaby.com

***Да свайго 25-годдзя случчанін Сяргей вырашыў зрабіць сабе падарунак — змяніць імя на беларускае. Супрацоўнікі ЗАГСа спачатку вырашылі, што ён жартуе, а пасля адправілі хлопца ў Акадэмію навук.***

### ГАНАРУСЯ ТЫМ, ШТО БЕЛАРУС

— Патрыятычныя памкненні ў мяне даўно прысутнічалі. Я люблю беларускую культуру, ганаруся тым, што беларус, і думка пра тое, каб змяніць імя, у мяне з'явілася яшчэ гады два таму. А тут як раз тэрмін дзеяння пашпарту сканчваўся, і я вырашыў рэалізаваць сваю ідэю, – распавёў Сяржук «Салідарнасці». – Мне здавалася несправядлівасцю, што ў нас Змітра запісваюць Дзмітрыем – карацей, пішуць у пашпарты рускія варыянты імёнаў.

Супрацоўніцы ЗАГСа спачатку вырашылі, што я жартую.

— А з чаго вы ўзялі, што ёсць такое імя? — спыталі.

Калі яны зразумелі, што ў мяне сур'ёзны намер, параілі звярнуцца ў Акадэмію навук за даведкай, што такое імя існуе.Сяргей быў упэўнены: ён першы, хто мяняе імя на беларускае.

— Як жа я здзівіўся, калі даведаўшыся, што мне трэба. Супрацоўніца Акадэміі навук адчыніла на кампутары гатовы бланк і пачала ўводзіць мае дадзеныя. Спытаў, ці не адзін я такі. Ды не, кажа, вось нядаўна звяртаўся яшчэ адзін Сяргей, таксама Сержуком стаць хацеў.

### УСПРЫМАЮЦЬ ПАЗІТЫЎНА

Пасля дакументы адправілі ў Міністэрства юстыцыі, і праз пэўны час Сяргей атрымаў адказ, што яго зварот разгледзелі, і яму дазваляюць змяніць імя.

— Шчыра кажучы, я чакаў, што будуць праблемы, але атрымалася на дзіва проста. Забаўныя пытанні кшталту «а ты падумаў пра дзяцей?» мне задавалі знаёмыя і супрацоўнікі ЗАГСа. На маю думку, гэта сведчыць пра тое, што беларусы прывыклі бачыць свет па-руску, у іх не працуе беларускае мысленне. Людзі не разумеюць, як можна жыць з імем Сяржук.

Супрацоўнікам ЗАГСа я сказаў, што сваіх дзяцей назаву не Ванем, Пецем ці Сашам. Можа, у мяне сын будзе Францішак?

Я нікога не прымушаю зваць мяне Сержуком, бо гэта неразумна. Людзі, якія мяне ведаюць шмат гадоў, прывыклі звяртацца да мяне як да Сяргея. Але як ні дзіўна, многія знаёмыя падхапілі маё новае імя і вельмі пазітыўна яго ўспрымаюць. Нават тыя, хто не размаўляе па-беларуску, нічога супраць не маюць, не кпяць з гэтага. І мама паставілася з паразуменем да майго ўчынку. Дарэчы, адзін знаёмы хоча скарыстацца маім досведам і таксама памяняць імя на беларускае.

### АБ'ЯДНАЦЬ БЕЛАРУСАЎ

У паўсядзённым жыцці Сяржук карыстаецца дзвюма мовамі — рускай і беларускай. Нядаўна хлопец абараніў дыплом па-беларуску.

— Сёлета я скончыў Міжнародны гуманітарны эканамічны інстытут па спецыяльнасці «паліталогія». Сябра камісіі з Міністэрства адукацыі вельмі ўзрадаваўся, прачытаўшы тэму майго дыпломнага праекта «Нацыяналізм у 19 стагоддзі». Маўляў, я хоць паразмаўляю па-беларуску. Атрымаў 10.

Сяржук лічыць сябе нацыяналістам. На яго думку, улады павінны садзейнічаць умацаванню нацыянальнай ідэі.

— Аб'яднаць беларусаў могуць агульныя каштоўнасці — мова, культура. Я перакананы: гэта адзіны гарант бяспекі нацыі. Раскруткай нацыянальнай ідэі павінна займацца дзяржава, бо нават у самых ініцыятыўных беларусаў няма столькі рэсурсаў, каб паўплываць на сітуацыю ў грамадстве.

Стаць беларускамоўным Сержуку замінае тое, што не ўсе яго разумеюць:

— Пытаюся ў краме пра цукар, а мяне не разумеюць. А для дзяцей беларуская мова ўвогуле як замежная. Мы выхоўваем пакаленне, якое без перакладчыка не зразумее паляка і ўкраінца.

Сяржук успамінае, як у некаторых сітуацыях мова яго абараняла.

— Аднойчы у кавярні да нас з сябрамі падышоў нецвярозы і пачаў рабіць заўвагі, відавочна, правакуючы канфлікт. Я звярнуўся да яго па-беларуску, і ён пацісніў мне руку: «Уважаю».

Але часам даводзіцца сутыкацца з непрыхаванай варожасцю. Нядаўна зайшоў на пошту, патэлефанаваў знаёмы, з якім мы толькі па-беларуску размаўляем. Чарга змоўкла. Падлеткі глядзелі на мяне, як на жывы помнік.

— Бандэравец, ідзі аплочвай, — звярнуўся да мяне мужчына, які стаяў перада мной.





# У ПОЛЬШЧЫ БУДУЮЦЬ 100 ГАТЭЛЯЎ ДЛЯ ПЧОЛ

***Тэлеканал belsat.eu паведаміў аб тым, што пчолы ў 17 польскіх гарадах атрымаюць дамы «для адпачынку і кахання».***

Колькасць пчол у вялікіх гарадах імкліва зніжаецца праз неспрыяльную экалагічную сітуацыю. Гэтым карысным насякомым усё цяжэй знайсці месца, дзе яны могуць схавацца. А гэта значыць, што без апылення застаюцца мільёны раслінаў, у тым ліку тых, якія кормяць гараджанаў садавінаю і гароднінаю. У некаторых краінах, напрыклад у Кітаі, пчол катастрафічна не хапае, і там расліны даводзіцца запыляць уручную.

Дамкі, збудаваныя з экалагічных матэрыялаў, паставяць у гарадскіх зялёных зонах. У іх пчолы змогуць схавацца ад дажджу і халадоў, атрымаўшы «месца для адпачынку і кахання». Гатэлі створаныя такім чынам, каб унутры маглі суіснаваць насякомыя некалькіх відаў. Каб падаць прыклад іншым «пастаяльцам», дамкі засяляць рудымі осміямі (лац. osmiarufa) – пчоламі, якіх выкарыстоўваюць для апылення раслінаў у сельскай гаспадарцы. Яны бяспечныя для людзей: не агрэсіўныя і не ўтвараюць рою.

Учора пчаліны гатэль урачыста «адкрылі» ў Вроцлаве. А першы летась у верасні з'явіўся ў вядомым варшаўскім парку – Поля Макатоўске (PolaMokotowskie). Адзін дамок каштуе 800 злотых (каля 270 долараў). Таму польскія актывісты «Greenpeace» стварылі інтэрнэт-старонку «Усынаві/удачары пчалу», праз якую можна пералічыць свае ахвяраванні. Адно «ўсынаўленне/удачарэнне» каштуе 2 злотых. Да акцыі далучыліся вядомыя польскія музыкі. Дзякуючы ёй удалося сабраць грошы на 100 пчаліных гатэляў.

Адной з самых вядомых акцыяў падобнага кшталту ў Еўропе стала ўсталяванне вулляў на даху французскага парламента ў красавіку 2013 года.

# «НУЖНО ГОТОВИТЬСЯ К ПАДЕНИЮ ЗАРПЛАТ»

Кирилл ИВАНОВ, gazetaby.com

***Экономист Леонид Злотников в экспресс-комментарии «Салідарнасці» рассказал о причинах и последствиях привязки роста зарплат к производительности труда.***

Постановление правительства от 31 июля 2014 «Об оплате труда работников» официально опубликовано и вступило в силу 6 августа.

Напомним, что согласно документу в государственных организациях и предприятиях рост номинальной начисленной среднемесячной заработной платы работников допускается только при условии опережающего роста производительности труда.

В качестве показателя при определении производительности труда в организациях определена выручка от реализации продукции, товаров, работ, услуг на одного среднесписочного работника.

Иными словами, постановление дополнительно мотивирует производителя не только выпускать, но и активно продавать продукцию, не допуская затоваривания складов.

Экономист Леонид Злотников приветствует решение Совмина, но с одной оговоркой:

— Было бы хорошо, если это постановление появилось несколько лет назад.

Начиная с 2012 года рост зарплат у нас шёл со значительным опережением производительности труда. Теперь сложилась ситуация, когда рост зарплат составляет двухзначные цифры, в десять раз превышая показатели производительности.

По словам экономиста, сегодня и население, и предприятия потребляют значительно больше ресурсов, чем позволяют возможности производства.

— В такой ситуации рост зарплат практически невозможен, — отмечает эксперт.

О серьезности ситуации говорит и тот факт, что непопулярное постановление правительства принято фактически накануне президентских выборов.

— Рост зарплат возможен при условии стабильного поступления валюты в страну. А у нас экспорт понизился, кредитов нам не дают. В такой ситуации не только роста не стоит ожидать, но и к падению зарплат нужно готовиться.

По мнению экономиста, бюджетников фактически поставили перед фактом: денег нет — выкручивайтесь сами.

# ІНТЭРНЭТ-БІБЛІЯТЭКА KAMUNIKAT.ORG: КНІГІ, ГАЗЕТЫ, ЧАСОПІСЫ, АЎДЫЁ, ВІДЭА



kamunikat

Беларуская Інтэрнэт-Бібліятэка

***Праект “Беларуская інтэрнэт-бібліятэка Kamunikat.org”, які рэалізуе Беларускае гістарычнае таварыства, існуе з 2000 году і арыентаваны на збор незалежных беларускіх выданняў. На сайце www.kamunikat.org можна знайсці кнігі, газеты, часопісы, аўдыё і відэа. А ў раздзеле “Перыёдыка” знаходзяцца ўсе нумары “Клімавіцкай Інфа-Панарамы” за 2012, 2013 і 2014 гг.***



КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

*Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь*
*Адказны за выпуск: Аржанцаў Сяргей Юр'евіч*
*Адрас: Клімавічы, вул. Леніна, д. 27а, кв.15.*
*Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад 299 асобнікаў*
*Распаўсюджваецца бясплатна*